16 ЧЭРВЕНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№66 (597) КОШТ СВАБОДНЫ



## Груз нон грата

стар.3

# Румынские итоги

## В Бухаресте был разбит миф о раздробленности белорусских демократических сил

Иван БАБИЧЕВ

**Белорусская оппозиция готова к проведению свободных демократических выборов. Они должны состояться после переговоров властей и оппозиции при посредничестве ОБСЕ и также должны быть взяты под контроль международных организаций.**

К такому заключению пришли участники встречи белорусских общественных деятелей с рабочей группой ОБСЕ. Двадцать представителей демократической оппозиции на протяжении трех дней с 11 по 13 июня вели в резиденции президента Румынии Константинеску активные переговоры на самом высоком дипломатическом уровне. Как известно, белорусские власти от участия в этой встрече уклонились под предлогом несоответствия уровня переговоров рангу депутатов Национального собрания. Однако, кроме председателя КНГ ОБСЕ в Беларуси Ханса-Георга Вика и Главы рабочей группы Парламентской ассамблеи ОБСЕ по Беларуси Адриана Северина, с западной стороны в диалоге участвовали Генеральный секретарь ПА ОБСЕ Спенсер Оливер, докладчик по Беларуси от ПА СЕ Вольфганг Берехендт и другие политики высокого уровня.

Темой встречи, которая проходила за завесой полной конфиденциальности, стала возможность проведения в Беларуси свободных демократических выборов. Участники переговоров обсудили также положение в СМИ и работу законодательной власти в нашей стране. По итогам встречи ее участникам были розданы резюме, в которых изложены основные идеи, прозвучавшие за три дня встреч. На основе этих резюме будет готовиться следующий этап диалога.

### Каментарыі:

**Старшыня рабочай групы ПА АБСЕ Адрыян СЕВЯРЫН:**

— Мэтай сустрэчы быў пошук шляхоў для правядзення ў Беларусі свабодных і справядлівых выбараў, у якіх маглі б удзельнічаць усе палітычныя сілы вашай краіны. На жаль, спрэчкі і непаразуменні бываюць і сярод апазіцыі, а не толькі паміж уладамі і апазіцыяй. Хацелася б, каб апазіцыянеры адносна правядзення свабодных выбараў мелі б узгодненую пазіцыю. І такога паразумення ў Бухарэсце дасягнуць удалося.

**Зміцер БАНДАРЭНКА, каардынатар грамадзянскай ініцыятывы Хартыя'97:**

— У Бухарэсце адбылася сустрэча рабочай групы АБСЕ з грамадскімі дзеячамі Беларусі. Вынікі яе я ацаню бы станоўча. Сустрэча паказала, што «беларускае пытанне» з'яўляецца сёння для Еўропы амаль што асноўным. Узровень прыёму, аказаны нам у Бухарэсце, быў вельмі высокім. На сустрэчу з намі прыбыў Генеральны сакратар ПА АБСЕ Спэнсар Алівер. Апазіцыя прадэманстравала гатоўнасць весці прамыя перамовы з уладамі. Румынская сустрэча вельмі важная, бо адбылася напярэдадні паседжання ПА АБСЕ ў Санкт-Пецярбургу, дзе будзе вырашана пытанне аб легітымнасці выканаўчай улады ў Беларусі.





**Таццяна ПРОЦЬКА, старшыня Беларускага Хельсінкскага Камітэта:**

— Вынікі бухарэсцкага саміту ацэньваю станоўча. Вынікі перамоваў з еўрапейцамі я б назвала падмуркам для магчымых будучых сумесных дзеянняў. Грамадзянская супольнасць Беларусі пацвердзіла сваё жаданне шукаць цывілізаванае выйсце з той сітуацыі, што склалася ў нашай краіне. Раней гэтаму працэсу перашкаджалі асабістыя амбіцыі лідэраў некаторых арганізацыяў. Цяпер, спадзяюся, гэтая праблема пераадоленая. На жаль, беларуская ўлады на гэты раз прадэманстравалі вельмі непаважлівыя адносіны да АБСЕ. Так паводзіць сябе адносна сур'ёзных еўрапейскіх структураў цяпер толькі адзін Мілошавіч. А тым часам праблема легітымнасці ўлады стаіць перад афіцыйным Мінскам даволі востра.

Падрыхтаваў Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Крывавы адлік Нямігі працягваецца

Напрыканцы мінулага тыдня ў шпіталі памёр яшчэ адзін падлетак, які пацярпеў пры трагедыі на Нямізе 30 траўня гэтага года. Гэта 19-гадовы Сяргей Саладкевіч, які вучыўся ў 23-м мінскім ПТВ. За ўсе дні пасля трагедыі ён так і не прыйшоў у прытомнасць – быў у коме. А 11 чэрвеня памёр. Ужо на наступны дзень хлопец быў пахаваны ў вёсцы Люціна Валожынскага раёна. Ён стаў 53-й ахвярай у афіцыйным спісе загінуўшых. Дагэтуль у шпіталях краіны знаходзяцца яшчэ 66 пацярпелых. Адзін з іх у вельмі цяжкім стане.

### Ва ўсім вінаватыя фашысты?

Расійская газета «Версия» вынайшла, хто на самой справе вінаваты ў трагедыі на Нямізе. Па версіі «Версии», вінаватыя беларускія РНЕшнікі – яны нібыта таксама ўдзельнічалі ў «свяце піва» і справакавалі патасоўку, а затым і «давілаўку» — калі ўжылі слезацечны газ.

### 4 мільёны долараў за беларускага капітана

Капітан беларускай футбольнай зборнай 27-гадовы Сяргей Гурэнка, які дагэтуль гуляў за маскоўскі «Лакаматыў», будзе прададзены італьянцам. Сёння ён мусіць прыляцець у Рым, дзе падпіша кантракт з мясцовай «Ромай». Чакаецца, што за трох- ці чатырохгадовы кантракт з Гурэнкам «Рома» заплаціць 4 мільёны долараў.

Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

АДПАЧЫНАК

# Водная істэрыя

## Па прагнозе спецыялістаў, з-за спякоты на пачатку ліпеня ні ў адным вадаёме каля Мінска нельга будзе купацца

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**З надыходам летняй спякоты Мінск па выхадных стаў «выміраць». Усе шукаюць паратунку на рэках і азёрах, дзе можна схавацца ад бязлітаснага сонца і разам з тым добра адпачыць. Карэспандэнты НАВІНАЎ вырашылі высветліць, якія вадаёмы прыгодныя для купання, а якія — небяспечныя.**

Па звестках, атрыманых намі ў Мінскай гарадской санэпідэмстанцыі, у межах горада і Мінскага раёна для купання на 15 чэрвеня былі прыгодныя Цнянскае вадасховішча, Камсамольскае возера, Мінскае мора, вадасховішчы Пціч, Дразды, Вяча, Крыніца.

Непрыдатнымі для купання з'яўляюцца Чыжоўскае, Сляпянскае вадасховішчы, рака Свіслач і водная сістэма ў Курасоўшчыне, якія з'яўляюцца выключна дэкаратыўнымі.

Падчас наведвання карэспандэнтамі НАВІНАЎ Мінскага мора вада ў ім нагадвала густую зялёную масу. Гэта, як высветлілі мы пазней, сталася вынікам пачатку цвіцення фітапланктону. Звычайна вада часткова самаачышчаецца ад гэтай зелені, але толькі не тады, калі тэмпература паветра перавышае 25 градусаў.



Фота Ул. ШЛАПАКА

● УВАГА! Не заплывайце за буйкі, бо прыйдзецца выплачваць штраф у памеры дзесяці мільёнаў рублёў. Па словах выратавальнікаў, на Мінскім моры з пачатку купальнага сезона ўжо патанула некалькі дзесяткаў чалавек

Пры ўмове, што тэмпература пратрымаецца на цяперашнім узроўні яшчэ тры тыдні, вада ў большасці вадаёмаў стане поўнасцю непрыдатнай для купання, набудзе балотны пах, і ў мэтах прадухілення захворвання купальшчыкаў дызентэрыяй ці сальманелёзам санэпідэмстанцыя вымушаная будзе забараніць купанне на пэўны перыяд часу. ■

# Лясы закрытыя для адпачынку

## Аблвыканкамы ўсіх абласцей Беларусі забаранілі наведваць лясы – з-за пажаранебяспечнай сітуацыі

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

У Мінскай вобласці, напрыклад, наведванне лясоў забаронена з 9 чэрвеня – і да «асобнага распараджэння», дакладней кажучы, да таго часу, пакуль не пойдуць дажджы.

Такім чынам, аказаліся забароненымі як заезд прыватнага аўтатранспарту на тэрыторыю лясных масіваў, так і турыстычныя паходы, падарожжы і проста прагулкі ў лес.

Цікава, аднак, што гэтая забарона пакуль не падмацаваная ніякімі рэпрэсіўнымі захадамі. Па словах супрацоўнікаў міністэрства лясной гаспадаркі, цяпер леснікі, заўважыўшы парушальнікаў лясной мяжы, мусяць або проста ўгаварваць іх пакінуць тэрыторыю лесу, або дачакацца, калі тыя развядуць вогнішча ці кінуць недапалак – толькі тады можна іх штрафаваць. ■



НАДВОР'Е




**17 чэрвеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы і навальніцы. Вецер паўднёва-ўсходні, 3–8 м/с, пры навальніцах парывы да 15–20 м/с. Тэмпература паветра ўначы +13-+18.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**435 000**

СЕРАДА З АЛЯКСАНДРАМ ДУБРАВІНЫМ

## Нашто Бобіку ланцуг?

Вайна ў Косава не скончылася. Вайна ў Косава працягваецца.

Яна можа атрымаць новы стымул дзякуючы ўводу расійскіх войскаў. Ліхі манеўр дэсантнікаў парушыў няўстойлівую раўнавагу, дасягнутую падчас перамоваў.

Патрабаванні Масквы абавязкова выдзеліць ёй зону адказнасці на тэрыторыі Косава нельга патлумачыць інакш, як рэцыдыў імперскай хваробы, незразумелай з пазіцыяў здаровага сэнсу. І сапраўды: у зоне адказнасці трэба падтрымліваць жорсткі паліцэйскі парадак, забяспечваць насельніцтва ўсім неабходным, ад медыкаментаў да электраэнергіі. Арганізоўваць, карацей кажучы, нармальнае жыццё. А гэтага сама Расія ўжо каторы год не можа наладзіць у сваіх правінцыях. Сёлета, напрыклад, без электрычнасці сядзяць у Сібіры і на Далёкім Усходзе. Амерыка корміць расіянаў хлебам, мясам, гарохам.

Мецьзону ў Косава зараз — вялікая адказнасць яшчэ і таму, што трэба праводзіць вельмі далікатную нацыянальную палітыку. А гэта, дарэчы, Масква ўвогуле слаба разумее. Як памірыць зараз сербаў і албанцаў, улічваючы, што касавары пачынаюць помсціць за сваё выгнанне? Тым больш, што бежанцы, якія зараз амаль усе вяртаюцца дадому і з якімі трэба памяркоўна дамаўляцца, лічаць, што Расія заадно з Мілошавічам, і ненавідзяць рускіх? Масква, як заўсёды, разлічвае на сілу. А сіла тут не дапаможа. Канфлікт паміж албанцамі і расійскімі войскамі на гэтым фоне мае вялікую верагоднасць рэалізацыі. А калі гэта здарыцца, то будзе новы віток эскалацыі канфлікту, новы этап процістаяння, цяпер ужо на зямлі, а не ў паветры. У гэтае процістаянне будуць уцягнутыя усе ўдзельнікі міратворчай місіі ў Косава.

Больш таго, увод расійскіх войскаў ускалыхнуў новыя шавіністычныя настроі ў Маскве і надзеі на падзел Косава ў Бялградзе, што пагражае новым супрацьстаяннем Расіі і Захаду.

І самая нярадасная выснова для Масквы: калі да гэтага часу ў Захаду былі нейкія ілюзіі наконт перамогі новага дэмакратычнага мыслення у Крамлі, новых падыходаў да сусветнага парадку, адказнай дыпламатыі, дык зараз пра гэта і казаць няемка. Масква не вытрымала іміджу нармальнай краіны, зноў паставіла ўсё з ног на галаву. У выніку — згублены давер партнёраў па перамовах і з'явіліся новыя праблемы са сваім сектарам.

Касаўская вайна працягваецца. Будзем спадзявацца на дзяржаўны розум Крамля. Іншага не застаецца.

## Зрухі ў справе Андрэя Клімава

**Генадзь БАРБАРЫЧ,**
**БелаПАН**

Абвінавачае заключэнне па 33-томнай крымінальнай справе Андрэя Клімава і яшчэ васьмі супрацоўнікаў яго былой будаўнічай фірмы накіраваныя для зацвярджэння ў пракуратуру. У выпадку зацвярджэння справа будзе перададзеная ў суд. Андрэй Клімаў абвінавачваецца ў крадзяжах у асабліва буйных памерах, парушэнні парадку ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці, выманьванні крэдыту, службовым падлозе. За гэта ён можа атрымаць пакаранне ад 6 да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці. Між тым жонка Клімава Тацяна перакананая, што пры аб'ектыўным і непрадузятым судзе «справа Клімава» рассыплецца. Яна, у прыватнасці, сказала, што абвінавачанне Клімава ў выманьванні крэдыту ў памеры 200 мільёнаў рублёў не вытрымлівае крытыкі. Па яе словах, крэдыт па вытворчай неабходнасці быў узяты ў Мінскім прыватным будаўнічым банку А.Клімава — фактычна ў самога сябе. І ўжо даўно вернуты з належнымі працэнтамі.

Тацяна Клімава лічыць, што крымінальная справа мае палітычную падаплёку. ■

ФОТАФАКТ



Фота REX/ProMedia

● 30°С. Жарко всем. Даже ангелам

ЗАМЕЖЖА

## Европарламент наш!

**Иван БАБИЧЕВ**

Выборы в Европейский парламент, которые прошли 13 июня, закончились победой партий консерваторов и социал-демократов. Четвертое место по количеству набранных голосов заняла Партия зеленых. Для Беларуси эти результаты более чем благоприятны. Именно консервативное большинство повлияло на принятие трех жестких резолюций Европарламента о ситуации в нашей стране в феврале и июле 1998 года и марте 1999 года. Представляла эти документы докладчик по Беларуси — депутат от партии «зеленых» Элизабет Шрёдтер, которая сохранила эту должность и теперь.

Консерваторы увеличили свое присутствие в Европарламенте со 181 до 224 мест. Соцдемы, наоборот, сократили с 214 до 180. Объясняется это протестным характером европейского электората. Обычно в «дуэли» между консерваторами и социал-демократами в Европарламенте побеждают те, чья партия не находится сейчас у власти. А, как известно, во многих странах Европы у власти в настоящий момент находятся именно социал-демократы.

Для «зеленых» результаты выборов стали довольно внушительной победой. Эта партия получила восемь дополнительных мест к имеющимся 28-ми. Существенно уменьшилось присутствие в Европарламенте христианских демократов (с 55 до 16 мест) и независимых кандидатов (с 33 до 18). Либералы (44 места), коммунисты (35 мест) и представители радикальных левых (13 мест) и правых (20 мест) партий своих позиций практически не изменили. ■

### Справка НАВІН

*Европарламент — самая крупная структура Европейского Союза, в который входит сегодня 15 государств Европы. Выборы в ЕП проводятся раз в 5 лет. Система выборов в ЕП пропорционально-мажоритарная — граждане стран Евросоюза голосуют не за кандидатов, а за партии.*

*Всего в состав ЕП входит 626 парламентариев. 99 человек представляют Германию, 87 — Францию, 64 — Испанию, 31 — Нидерланды и т.д. Заседания Европарламента проходят в Страсбурге (Франция) и в Брюсселе (Бельгия). Парламент заседает в течение недели один раз в месяц. Секретариат парламента располагается в Люксембурге. Сегодня президент Европарламента — Хосе Мария Роблес.*

**До 23 числа каждого месяца можно подписаться на получение газеты НАВІНЫ в киосках «Белсоюзпечати».**

Эти киоски находятся во всех районах города, на остановках, возле ваших домов, в метро. Не упустите возможность такой подписки!

Получить информацию об этом виде подписки можно в «Белсоюзпечати» по телефону 227-88-41.

Ниже мы сообщаем адреса пунктов, где можно оформить подписку «до востребования».

**ВНИМАНИЕ: подписаться можно в указанных киосках, а получать НАВІНЫ в тех киосках, где вам удобнее.**

**Не забывайцеся, падпісацца на нашую газету праз шапікі «Белсаюздруку» каштуе на 80 тысяч у месяц менш у параўнанні са звычайнай падпіскай.**

## Список пунктов МГОРП «Белсоюзпечать», где принимается подписка «до востребования»

1. Ул.Володарского, 22. Магазин № 14
2. Ул.Есенина, 16. Магазин № 20
3. Ул.Жилуновича, 31. Магазин № 24
4. Ул.Жуковского, 5, корп.1. Октябрьский пункт подписки
5. Ул.Жуковского, 5. Магазин № 1
6. Ул.Я.Коласа, 67. Магазин № 7
7. Ул.Калиновского, 82, корп.2. Магазин № 13
8. Ул.Кижеватова, 80. Магазин № 12
9. Ул.Кошевого, 8. Партизанский пункт подписки
10. Ул.Ленина, 15. Магазин № 4
11. Пр.Машерова, 51, корп.1. Магазин № 19
12. Пр.Машерова, 31 (г-ца «Планета»). Киоск № 262
13. Пр.Машерова, 19 (г-ца «Юбилейная»). Киоск № 78
14. Ул.Некрасова, 35. Магазин № 17
15. Площадь Победы (подземный переход). Магазин № 18
16. Площадь Притыцкого (подземный переход). Магазин № 21
17. Площадь Я.Коласа (переход около ЦУМа). Киоск № 136
18. Пр.Пушкина, 77. Магазин № 11
19. Пр.Рокоссовского, 140. Магазин № 9
20. Ул.Романовская Слобода, 9. Фрунзенский пункт подписки
21. Ул.Славинского, 39. Магазин № 23
22. Пр.Скорины, 11 (г-ца «Минск»). Киоск № 34
23. Пр.Скорины, 44. Магазин № 2
24. Пр.Скорины, 76. Магазин № 3
25. Пр.Скорины, 113. Первомайский пункт подписки
26. Ул.Сторожевская, 15 (г-ца «Беларусь»). Киоск № 187
27. Ул.Сурганова, 40. Магазин № 8
28. Ул.М.Танка, 16. Магазин № 15
29. Ул.Филимонова, 1. Магазин № 6
30. Ул.В.Хоружей, 24. Магазин № 16

ЦЫТАТА НУМАРА

**У нас стала аксіёмай сцвярджанне, нібыта палітыка — брудная справа. Гэта не так. Проста ў палітыцы ёсць брудныя людзі...**

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ*
*Газета «Звязда», 15 чэрвеня 1999г.*

## Пяць гадоў турмы атрымаў выканаўчы дырэктар Алімпійскага фонду

**Дзмітрый УЛАСАЎ,**
**БелаПАН**

Суд Цэнтральнага раёна Мінска прыгаварыў выканаўчага дырэктара Алімпійскага фонду Валянціна Філіповіча да пяці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і адбываннем пакарання ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму. В.Філіповіч быў арыштаваны 9 сакавіка 1999 года ля будынка Нацыянальнага алімпійскага камітэта ў Мінску пры атрыманні хабару ў памеры 1.900 долараў ЗША ад прадстаўніка камерцыйнай фірмы «Лавіком» Тацяны Лукашовай за садзейнічанне ў прадастаўленні памяшканняў дзяржаўнага прадпрыемства «Палац спорту» для правядзення выставачнага гандлю. Сваёй віны В.Філіповіч не прызнаў. ■

## Магілёўскі мясакамбінат спынены на два тыдні

**Канстанцін УВАРАЎ**

Афіцыйная прычына — неабходнасць правядзення планавага рамонту. Паводле некаторых іншых звестак, звязана гэта з дэфіцытам сыравіны, які сёлета адчуваюць усе тры буйнейшыя мясаперапрацоўчыя прадпрыемствы Магілёўшчыны. Згодна з інфармацыяй на 11 чэрвеня, адставанне калгасаў і саўгасаў вобласці ад планаў па здачы мяса дзяржаве складае 568 тон. Сёння забойны цэх Бабруйскага мясакамбінату працуе толькі тры дні на тыдзень, Крычаўскага — 1-2 дні. ■

## Гіпермаркет — да 2000 года

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

Напрыканцы 2000 года ў раёне праспекта Дзяржынскага ў Мінску будзе падбудаваны першы ў Беларусі гіпермаркет — гандлёвы цэнтр, які будзе сумяшчаць функцыі магазіна і аптовага сховішча. Заказчыкам будаўніцтва выступіла замежнае прадпрыемства «IK for Shops» (Польшча), праектную дакументацыю рыхтуе інстытут «Мінскпраект».

Як паведаміў галоўны архітэктар «Мінскпраекта» Уладзімір Тарноўскі, агульная плошча гіпермаркета складзе звыш 50 тысяч квадратных метраў. Гандлёвая зала для продажу харчовых тавараў зойме 10 тысяч квадратных метраў, столькі ж — прылеглыя да яе галерэі з магазінамі прамысловых тавараў, больш за 25 тысяч квадратных метраў — аўтастаянка на 1.160 месцаў. Пачатак будаўніцтва запланаваны на вясну 2000 года. ■

## МоАЗ узбунтаваўся

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

У панядзелак зранку больш за тысячу рабочых аднаго з буйнейшых заводаў Магілёва, МоАЗа пачалі працоўны дзень не на сваіх звычайных рабочых месцах, а на плошчы ля прахадной завода. Астатнія тры з паловай тысячы працоўных гэтага прадпрыемства падтрымалі страйк, які распачаўся а палове восьмай, тым, што хацця і выйшлі да сваіх станкоў, але працаваць адмовіліся.

Прычынай бунту МоАЗаўцаў стала нявыплата заробку за красавік і травень. Кіраўніцтва прадпрыемства было вельмі напужанае разгортваннем падзеяў. Яшчэ б, у чацвер у Магілёў павінен быў прыляцець прэзідэнт Лукашэнка, каб асабіста праверыць сітуацыю на буйнейшых прадпрыемствах горада, а тут завод спыніўся. У выніку да абеду была выканаyая большасць патрабаванняў працоўных: складзены графік пагашэння запазычанасцяў, выплачана па 3 мільёны рублёў кожнаму, а таксама ў кошт пагашэння запазычанасцяў былі апісаныя службовыя аўтамабілі кіраўніцтва МоАЗа. Страйкам рабочых вырашыў часова прыпыніць забастоўку і даць кіраўніцтву яшчэ адзін шанец. ■

ФІНАНСЫ

## Нацбанк запатрабаваў «чорныя спісы»

**Сяргей БАЛЫКІН,**
**БелаПАН**

З неафіцыйных крыніцаў стала вядома, што Нацбанк Беларусі зацвердзіў парадак прадастаўлення банкамі звестак аб некаторых валютных аперацыях сваіх кліентаў. Згодна з парадкам, банкі абавязаныя патрабаваць ад сваіх кліентаў дакументы, на падставе якіх ажыццяўляецца валютная аперацыя. Банкі абавязаныя інфармаваць Нацбанк у наступных выпадках: калі ў дагаворы не прадугледжаная адказнасць замежнага партнёра за невыкананне тэрмінаў яго выканання; прадугледжаны авансавы плацёж на карысць нерэзідэнта на суму больш за 100 тысяч амерыканскіх долараў; дагавор заключаны ад імя беларускага суб'екта гаспадарання, існуючага менш за тры месяцы; дагавор заключаны з кампаніямі, зарэгістраванымі ў афшорных зонах, да ліку якіх аднесены і шэраг амерыканскіх штатаў, швейцарскіх кантонаў, Люксембург, Ліхтэнштэйн, Латвія, Цэнтр міжнароднага бізнесу «Інгушэція», а таксама ў некаторых іншых выпадках. За непаведамленне інфармацыі Нацыянальнаму банку камерцыйныя банкі могуць быць аштрафаваныя на суму, роўную аднаму працэнту ад сумы плацяжу кліента. ■

ТЭНДЭНЦЫІ

# Сівакоў апраўдаўся за Захаранку

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Міністр унутраных справаў Юрый Сівакоў нарэшце публічна выказаўся наконт знікнення свайго былога калегі Юрыя Захаранкі. У панядзелак па беларускім тэлебачанні была паказаная вытрымка з інтэрв'ю, у якім Сівакоў заявіў, што «Захаранку шукаюць у адпаведнасці з законам». Было бачна, што адсутнасць вынікаў гэтых пошукаў выклікае ў міністра занепакоенасць, як і ва ўсіх грамадзянаў. Міністр паскардзіўся на цяжкасць справы, бо па ёй «няма ніякай інфармацыі».**

Чаму ўвогуле Сівакоў выказаўся на тэму, якую старанна абыходзіў больш за месяц? Нагадаем, што Юрый Захаранка знік яшчэ 7 траўня. Некалькі дзён пасля здарэння ўлады ўвогуле маўчалі, быццам нічога не адбылося. Потым у афіцыйных СМІ з'явілася сціплае паведамленне, што «Захаранка не вярнуўся дадому». Яшчэ праз некалькі дзён прагучала, што яго шукаюць, дзеля гэтага заведзеная спецыяльная справа. А паралельна ў дзяржаўных СМІ, у першую чаргу па БТ, пачалі гуляць чуткі, быццам бы з Захаранкам «разабраліся» крымінальнікі, у якіх ён пазычыў грошы... Яшчэ праз месяц улады забыліся і пра гэтую бязглуздзіцу. Тэма знікнення былога міністра ўвогуле аказалася за межамі «прапагандысцкага рэпертуару». І вось зараз яе рэабілітавалі. З чаго раптам?

Прэс-служба міністэрства ўнутраных справаў сцвярджае, што размова пра Захаранку зайшла сама сабой. Маўляў, міністр правяраў ДАІ і пасля агляду патрапіў «пад град журналісцкіх пытанняў». Давялося адказваць, у тым ліку і пра былога калегу.

Аднак жонка Юрыя Захаранкі Вольга Барысаўна мяркуе, што гэта адбылося невыпадкова. Чаму? Яна ўзгадвае, што апошнім часам наведвае замежныя амбасады, дзе расказвае пра тое, што здарылася з яе мужам. З дыпламатаў толькі расійскі пасол не адгукнуўся на яе просьбу сустрэцца для размовы. Ва ўсіх амбасадах яе суцяшаюць, выслухоўваюць, абяцаюць дапамогу. Вольга Барысаўна бачыць, што гэта дае вынік — ва ўсякім разе, пра знікненне Захаранкі з'явілася больш інфармацыі за мяжой. «Вось нашыя кіраўнікі і вырашылі апраўдацца за тое, што цэлы месяц толькі рабілі выгляд, быццам шукаюць майго мужа», — кажа Вольга Захаранка.

Крыху інакш успрыняў выказванні Сівакова былы палкоўнік унутраных войскаў Уладзімір Барадач. Ён разглядае вяртанне афіцыйных прадстаўнікоў да тэмы знікнення Захаранкі як прыкмету таго, што ўлады шукаюць нейкае выйсце з тупіка. Барадач па-ранейшаму мяркуе, што Захаранку скралі нейкія паўлегальныя спецслужбы па загадзе зверху. Мэта — запалохаць яго асабіста, усю апазіцыю, спыніць працэс утварэння апазіцыйнага ўладзе Саюза афіцэраў. На думку Барадача, зараз, калі гэтай мэты часткова ўдалося дасягнуць, улада пачала шукаць выхад са складанага становішча. Дэманстрацыю партрэта



Юрый Сівакоў

Захаранкі па БТ Барадач назваў імітацыяй пошукаў дзеля таго, каб потым сказаць: «Вось бачыце, мы актывізавалі пошукі, і Захаранка знайшоўся».

Палкоўнік Барадач упэўнены, што былы міністр жывы і ўрэшце рэшт праўда пра ягонае «знікненне» стане вядомая. ■

КАНФЛІКТ

# Памежная зона ператварылася ў мясны склад

## На беларуска-польскай мяжы складаная сітуацыя: фуры з атручаным мясам усё прыбываюць.

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Дзесяткі тон мяса птушкі і свініны з краінаў Заходняй Еўропы за апошні тыдзень спынілі беларускія мытнікі на памежным пераездзе «Казловічы» каля Брэста. Што рабіць з бельгійскім, галандскім і французскім мясам, не ведае ніхто.**

Мы ўжо пісалі аб тым, што па распараджэнні дзяржаўнай ветэрынарнай інспекцыі мытнікі не прапусцілі на тэрыторыю краіны каля дзесяці аўтафураў з мясам, якое можа ўтрымліваць атруту дыяксін. Вадзіцелі, якія везлі свой груз у Беларусь і Расію, знаходзяцца ў абсалютнай разгубленасці і не ведаюць, што рабіць. Даставіць мяса па прызначэнні ім не даюць, а адвезці яго назад у Еўропу ў іх няма сродкаў. Польскі бок патрабуе заплаціць даволі значную суму за ўезд аўтафургонаў на сваю тэрыторыю. Прычым кожную машыну павінна суправаджаць ахова, каб вадзіцелі не надумалі разгрузіць свае фуры ў Польшчы. У дальнабойшчыкаў, натуральна, такіх грошай няма, а іхнія фірмы таксама адмаўляюцца аплачваць транспарціроўку падазронага мяса на Захад.

Не ведае, што рабіць з курацінай і свінінай, і галоўны санітарна-ветэрынарны інспектар Беларусі Аляксандр Аксёнаў. Паводле ягоных словаў, распараджэнне не пускаць мяса ў краіну было аддадзенае дзеля перастрахоўкі. Не выключана, што ў прадукцыі няма атрутных рэчываў, але праверыць гэта вельмі складана. Па словах сп.Аксёнава, у Беларусі амаль няма патрэбных прыбораў і лабараторыяў, дзе можна было б высветліць, атручанае мяса ці не. Ды і каштуюць падобныя аналізы вельмі дорага — прыкладна 2,5 тысячы долараў. Галоўны санветінспектар Аляксандр Аксёнаў таксама лічыць, што гэты груз нельга і знішчаць, напрыклад, спаліць на месцы, затапіць ці закапаць, паколькі ёсць пагроза экалагічнага забруджвання асяроддзя. «А ўвогуле праблема, куды падзець мяса, павінна найперш хваляваць тыя фірмы, якім прызначаўся гэты тавар. Мы ж рызыкаваць здароўем людзей не збіраемся», — дадаў Аляксандр Аксёнаў.

Не выключана, што нейкае рашэнне будзе прынятае падчас сумеснай калегіі беларускага і расійскага мытных ведамстваў, якая пачалася ў аўторак. ■

**ДАВЕДКА навінаў**

**Украина**

Прекратила ввоз мяса птицы, крупного рогатого скота, свинины и яиц из Бельгии еще в начале 1998 года. В настоящее время прекращен импорт мяса из Нидерландов и Франции.

**Узбекистан**

Выявлено около 100 тонн мяса птицы и говядины, закупленных в Бельгии.

**Грузия**

В Грузии не зафиксировано ни одного случая проникновения на территорию «отравленного» мяса. Запрет действует с 15 мая 1998 года.

**Молдавия**

Республика полностью обеспечивает себя мясопродуктами собственного производства.

ПАРТЫІ

# Вярнуцца ў рэальнасць

**Некалі, падчас працы над кандыдацкай, а потым і доктарскай дысертацыямі, мне прыйшлося шмат займацца тэорыяй сістэмаў. У кнізе аднаго амерыканскага аўтара я сустрэў цікавы прыклад, які характарызуе сутнасць сістэмнага падыходу. Перад Другой сусветнай вайной камандаванне ваенна-марскіх сілаў ЗША вырашала пытанне: дзе паставіць зенітныя гарматы – у партах ці на транспартных караблях? Калі ставіць за мэту збіць як мага болей самалётаў праціўніка, то безумоўна – у партах, дзе ёсць падрыхтаваныя зенітчыкі і эфектыўнасць стральбы вышэйшая, чым у кепска абучаных гандлёвых маракоў, што вядуць агонь з палубы транспартнага карабля, які хістаецца на хвалях. Але ў выніку эксперты–сістэмшчыкі прынялі рашэнне ставіць зеніткі на караблях, бо галоўнай мэтай было прызнане не збіццё самалётаў, а захаванне караблёў.**



**Мікалай СТАТКЕВІЧ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада)**

Іншым часам узнікае ўражанне, што, захапіўшыся «збіваннем самалёта», беларуская апазіцыя забывае пра «захаванне карабля». Ведучы любую палітычную кампанію, мы павінны суадносіць свае дзеянні з канчатковай мэтай нашай барацьбы. Такою мэтай для дэмакратычных сілаў бясспрэчна з'яўляецца пабудова незалежнай праваой беларускай дзяржавы з высокім узроўнем жыцця і развіцця беларускай культуры.

Менавіта скрозь прызму галоўнай мэты павінны разглядацца тыя ці іншыя дзеянні апазіцыйных сілаў, ацэньвацца набыткі і страты.

Абапіраючыся на бачанне нашай мэты, трэба сфармуляваць задачы, якія неабходна вырашыць на шляху да яе. Пры фармулёўцы гэтых задачаў нам неабходна ўлічваць жыццёвыя і палітычныя рэаліі, уяўляць сабе рэальныя механізмы выканання пастаўленых задачаў, дзейнічаць у той рэальнасці, у якой жыве большасць нашага народа.

Арганізатары прэзідэнцкіх выбараў 16 траўня адразу ставілі нерэальныя задачы, мяркуючы шляхам гэтай кампаніі перадаць уладу дэмакратычнаму прэзідэнту. Менавіта нерэальнасць пастаўленых задачаў аўтаматычна пацягнула і памылкі ў дзеяннях. Як інакш можна патлумачыць перадачу пратаколаў аб вылучэнні тысяч членаў тэрытарыяльных выбарчых камісіяў у мясцовыя «вертыкалі» ці жаданне любой цаной атрымаць 50% яўкі на выбары?

У студзені бягучага года я меў размову з арганізатарамі прэзідэнцкіх выбараў. На маю просьбу выкласці аргументы, на якіх грунтуецца ўпэўненасць у пераходзе ўлады пасля 16 траўня да дэмакратычна абранага прэзідэнта, я пачуў толькі набор фразаў з такімі словамі, як «сцэнары», «ролі», «змена пазіцыі Захаду», «падтрымка наменклатуры», «ўмяшанне Масквы» (?!). Шкада, што толькі на завяршальным этапе гэтай кампаніі яе аўтары нарэшце зразумелі рэальны сэнс сваіх дзеянняў.

БСДП на пасяджэнні свайго Цэнтральнага Камітэта ў студзені гэтага года адразу ацаніла кампанію па выбарах прэзідэнта як чыста прапагандысцкую, палітычную, і адпаведна пабудавала сваю тактыку. Гэта дазволіла захаваць адзінства партыі і ўмацаваць яе пазіцыі. Задачамі гэтай кампаніі мы бачылі пазбаўленне А.Лукашэнкі легітымнасці ў вачах беларускай і сусветнай грамадскасці, а таксама рост аўтарытэту дэмакратычных сілаў. Калі першая задача ў значнай ступені была рэалізаваная дзякуючы мужнасці і самаадданасці ўсіх удзельнікаў кампаніі, то другая задача была рэалізаваная толькі часткова з-за памылак у вызначэнні мэтаў кампаніі яе арганізатарамі. Адмоўную ролю адыграла і тое, што адсутнічаў кантроль за дзеяннямі арганізатараў кампаніі з боку Вярхоўнага Савета і асноўных дэмакратычных партыяў.

Каб пазбегнуць памылак у далейшай барацьбе за дасягненне нашай галоўнай мэты – пабудовы незалежнай, дэмакратычнай, развітой Беларусі, – дэмакратычным сілам важна сфармуляваць паслядоўнасць задачаў, якія трэба вырашыць на шляху да яе. Відавочна, што рух да нашае мэты патрабуе вырашэння наступных узаемазалежных задачаў:

1) захаванне і ўмацаванне незалежнасці Беларусі;

2) пабудова дэмакратычных інстытутаў у дзяржаве і грамадстве, рэалізацыя падзелу ўладаў;

3) пабудова сацыяльна арыентаванай высокаразвітай рынкавай эканомікі;

4) развіццё і ўмацаванне нацыянальнай культуры і культураў нацыянальных меншасцяў.

У сучасны перыяд беларускай гісторыі на пярэдні план выходзіць другая з гэтых задачаў, звязаная з барацьбой за дэмакратыю, але, ведучы барацьбу за дэмакратыю, нельга дапускаць, каб дзеянні дэмакратычных сілаў прыводзілі нават ускосна да пагрозы незалежнасці краіны. Многія аналітыкі пішуць, што Лукашэнка хацеў бы «абмяняць» Беларусь на найвышэйшую пасаду ў Расіі. Калі такая пагроза зробіцца рэальнаю, то ў дзеянне павінны ўступіць іншыя «сцэнары», якія не разглядаюцца ў гэтым артыкуле, а пакуль што апазіцыя павінна не памяншаць магчымы кошт гэтай «здзелкі» і сваімі дзеяннямі не «заштурхоўваць» Лукашэнку ў Расію. Калі не будзе незалежнасці, то не будзе магчымаю і дэмакратыя.

Шляхі да дэмакратыі могуць быць розныя. Найбольш бясьпечным для існавання беларускай дзяржавы і, дарэчы, найбольш рэальным у сучасных варунках нам уяўляецца шлях, які складаецца з чатырох наступных этапаў.

**I. Фармаванне ў грамадскай свядомасці станоўчай альтэрнатывы сучаснаму шляху развіцця Беларусі, які рэалізоўваюць улады.**

Праблема даверу грамадства – асноўная праблема беларускіх дэмакратычных сілаў.

На пачатку 90-ых гадоў Беларусь апынулася, у параўнанні з астатнімі былымі рэспублікамі СССР, у найбольш складанай сітуацыі. У выніку непадрыхтаванай змены эканамічнай мадэлі нашыя прамысловасць і сельская гаспадарка, якія працавалі на таннай прывазной сыравіне, энерганосьбітах і кармах, апынуліся ў крытычным стане з-за змены структуры цэнаў і зніжэння пакупніцкай здольнасці на традыцыйных рынках збыту. Захад не звярнуў увагі на нашыя праблемы, сыпллючы грошы ў бяздонную расійскую бочку. Менавіта ў гэты перыяд у масавай свядомасці беларускага народа нарадзіўся моцны недавер да шляху свабоднага развіцця. Гэты недавер быў адной з асноўных прычынаў, якія паўплывалі на вынік прэзідэнцкіх выбараў 1994 года.

Цяпер грамадскія настроі паступова мяняюцца да лепшага. Дэмакратычныя сілы павінны паскорыць гэты працэс. Трэба весці прапаганду альтэрнатыўнага шляху развіцця ў самых шырокіх слаях грамадства. У сувязі з недаступнасцю для нас электронных СМІ і масавых газетаў можна накіраваць нашыя высілкі на стварэнне і пашырэнне рэгіянальнага альтэрнатыўнага друку. Вельмі важна «малымі справамі» на карысць простых людзей заваёўваць аўтарытэт дэмакратычных арганізацыяў і лідэраў у канкрэтных рэгіёнах краіны. Сацыял-дэмакраты актыўна працуюць у гэтых накірунках.

**II. Фармаванне шырокай дэмакратычнай структуры за кошт дэмакратычных арганізацыяў і мабілізацыі прыхільнікаў альтэрнатыўнага шляху развіцця Беларусі.** ▶

Заканчэнне на стар.4

# Абавязковае страхаванне для ўсіх аўтамабіляў

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**З 1 ліпеня для ўсіх аўтамабілістаў, у тым ліку і гаспадароў прыватнага аўтатранспарту, жыццё ўскладняецца яшчэ адной працэдурай – страхаваннем грамадзянскай адказнасці. Што ж гэта такое і як адаб'ецца на кашальку кіроўцаў?**

8 лютага гэтага года прэзідэнт падпісаў дэкрэт №8 «Аб абавязковым страхаванні грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў». Дэкрэт прадугледжвае **абавязковае** страхаванне аўтамабіляў у адной з беларускіх страхавых кампаніяў, якія маюць адпаведную ліцэнзію і ўваходзяць у Беларускае бюро па транспартным страхаванні (ББТС). На сённяшні дзень такіх кампаніяў восем – гэта «ТАСК», «Багач», Белзнешстрах, Белдзяржстрах, «Бролі», «Альвена», «Купала», Беліндзяржстрах.

Пры страхаванні грамадзянскай адказнасці кампаніі страхуюць не сам аўтамабіль, а тую шкоду, якая можа быць ім нанесеная. Напрыклад, адбылося анекдатычнае дарожна-транспартнае здарэнне – «запарожац» уехаў у «мерседэс». Як правіла, грошай на кампенсацыю шкоды ў няшчаснага запарожцаўладальніка няма – і тады пачынаюцца «разборкі» накшталт «прадавай кватэру» і г.д. Новы від страхавання дазваляе пазбегнуць такога канфлікту – кампанія, якая застрахавала грамадзянскую адказнасць кіроўцы «запарожца», можа выплаціць ахвяры здарэння кампенсацыю. Тая ж схема будзе працаваць, калі, не дай Божа, ад дзеянняў няўмекі-кіроўцы пацерпяць людзі – яны атрымаюць кампенсацыю зноў-такі ад страхавой кампаніі. Памер кампенсацыі складае да 6 тысяч еўра – не больш за 3 тысячы еўра на пакрыццё шкоды маёмасці і не больш за 3 тысячы еўра – за шкоду, нанесеную здароўю.




Фота Ул.ШЛАПАКА

Уладальніку такога «цуду» страхоўка на год абыдзецца больш чым у пяць мільёнаў беларускіх рублёў

Страхавая дамова заключаецца на тэрмін ад 3 месяцаў да года, незастрахаваны аўтамабіль не мусіць з'яўляцца на дарогах Беларусі. Памер узносу складае: 9,4 еўра для рухавікоў да 1200 куб. см; 11,8 еўра – рухавікі ад 1200 да 1800 куб. см; 14,7 еўра – для рухавікоў ад 1800 да 2500 куб. см; звыш за 3500 куб. см — 21,2 еўра. *(Даведка: на ўчарашні дзень нацбанкаўскі курс еўра — 266.628 рублёў).* Скідкі для кіроўцаў з вялікім стажам і для тых, у каго не было аварыяў на працягу некалькіх гадоў за «баранкай», не прадугледжаныя. Адзіная льгота – 50% платы для інвалідаў вайны і для тых, хто атрымаў аўтатранспартныя сродкі ад органаў сацыяльнай абароны. Узнос можна выплачваць часткамі – раз у паўгода.

Каб «заахвоціць» аўтаўладальнікаў застрахаваць свае «колы», ужо прынятае рашэнне з 1 кастрычніка гэтага года штрафаваць тых, хто не паспеў атрымаць поліс. Памер штрафаў складзе 5 мінімальных заробкаў для прыватных асобаў і 15 «мінімалак» для юрыдычных асобаў, а калі незастрахаваны аўтамабіль яшчэ і патрапіць у ДТЗ, то тут ужо давядзецца аблегчыць сваю кішэню на 10 «мінімалак» (юрыдычным асобам – на 25). Для тых, у каго аўтамабіль зарэгістраваны за мяжой, а грамадская адказнасць у Беларусі не застрахаваная, штраф будзе ажно 200 долараў. ■

ПАМЯЦЬ НЯМІГІ

# Біў град, гасіў свечкі

**Канстанцін СУРЫН**

Падземны пераход каля станцыі метро «Няміга», дзе вечарам 30 траўня загінула мноства моладзі, стаў месцам народнага паломніцтва. Штодзень смутак прыводзіць сюды сотні людзей, тут стаяць у жалобе блізкія пацярпелых, іх сябры пішуць на сценах словы сардэчнага болю, просьбы аб дараванні, што не здолелі ўратаваць, на сходах запальваюцца свечкі, да сценак мацуюцца прысвечаныя няшчасным малюнкі, іх фотаздымкі, каб людзі мелі перад вачыма вобразы тых, хто страціў жыццё ў той трагічны вечар, калі грымела навальніца і біў град.

На мінулым тыдні ў гэтым раёне зноў была навальніца. Людзі, што хаваліся ў пераходзе, з жалем назіралі, як па сходах біў град, гасячы агеньчыкі свечак, а па гранітных сценах струменілася вада. На жалобных лістах расплывалася чарніла, знікалі напісаныя фламастарамі памятныя словы. Гэтак жа будзе і пры наступных навальніцах, і ў зацяжныя восеньскія дажджы. Тут загінула 52 чалавекі і болей за 200 пацярпела. І тыя, хто застаўся жывы, і блізкія тых, каго тут пакінула душа, будуць прыходзіць сюды заўжды — і ў лістападзе, і ў студзеньскія завеі.

А тыя пасажыры метро, якія не былі тут у трагічную часіну, але кожны дзень мусяць карыстацца гэтым выйсцем са станцыі, адчуваюць, што робяць нешта няёмкае, калі ступаюць па сходах, якія 30 траўня былі залітыя чалавечай крывёй.

Таму неабходна, каб улады не проста адзначылі саракавіны ўстаноўкай памятнага знака пра меўшую месца трагедыю, а накрылі гэты ўваход адмысловым навесам з празрыстага пластыка, які дазволіў бы захоўваць ад дажджу тыя шматлікія памяткі, якімі людзі адзначаюць тут сваю памяць аб пацярпелых. Была б да месца і замена шэрага граніту сходаў хоць бы вузкай стужкай з чырвонага, на якую як на сімвал страчанага тут разам з крывёй жыцця не наступалі б людзі ботамі.

Не надта дарага каштаваў бы такі клопат, аднак гэта стала б відочнай праявай павагі да таго месца, дзе сцены памятаюць апошні позірк, апошняе слова, апошні ўдар сэрца ахвяраў трагедыі. ■

SOS



9 мая 1999 года
ушли на дискотеку «Оскар»
в городе Слоним
**Виталий Хомяков**
и **Анатолий Фидрик**.
До настоящего времени они не вернулись. Кто видел их или знает, где они находятся, просьба сообщить по тел. (8-01562) 2-00-68, 2-01-69 за вознаграждение. Анонимность и порядочность гарантируем. Родители.







ПАРТЫІ

# Вярнуцца ў рэальнасць

*Заканчэнне. Пачатак на стар.3*

Трэба прызнаць, што папулярнасць беларускіх дэмакратычных сілаў значна меншая, чым папулярнасць ідэяў дэмакратыі і незалежнасці ў нашым грамадстве. У масавай свядомасці з часоў вольнага доступу апазіцыі да тэлебачання засталіся толькі дзве партыі, толькі дзве назвы – БНФ і камуністы. Кожная з гэтых партыяў у выніку пэўных абставінаў мае больш адмоўны рэйтынг, чым станоўчы. Аўтарытэт дэмакратычных сілаў не падыме іх аб'яднанне шляхам уваходжання дэмакратычных палітычных партыяў у рух БНФ, як гэта прапануюць сябры Фронту. У інтарэсах дэмакратыі патрэбна стварэнне прывабнага іміджу новай дэмакратычнай сілы. Іншым разам лягчэй стварыць нешта прывабнае новае, чым надаць пажаданы імідж старому.

Відавочным шляхам да кансалідацыі з'яўляецца пашырэнне ўплыву Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў, створанай згодна з рашэннямі Кангрэса дэмакратычных сілаў.

**III. Аказанне ўціску на існуючыя ўлады з мэтай дэмакратызацыі палітычнага і эканамічнага ладу ў краіне.**

Формамі такога ўціску могуць быць масавыя акцыі сацыяльнага пратэсту, абструкцыяў з боку міжнародных арганізацыяў, палітычныя кампаніі накшталт выбараў 16 траўня ці, магчыма, прызначэнне альтэрнатыўнага прэзідэнта пасля 20 ліпеня.

Аб'ектыўныя абставіны будуць прымушаць рэжым да правядзення рэформаў у эканоміцы, якія немагчымыя без згоды асноўных палітычных сілаў краіны. Гэта, а таксама неабходнасць атрымання шырокай эканамічнай дапамогі з Захаду, будуць штурхаць улады ў бок дыялогу з апазіцыяй. Альтэрнатывай дыялогу і выбарам для дэмакратычных сілаў могуць быць толькі гвалтоўныя метады барацьбы. Дзіўна чуць, як некаторыя апазіцыйныя палітыкі адмаўляюць дыялог і выбары, але адначасова з гэтым заяўляюць і аб непрымальнасці гвалтоўных метадаў барацьбы. Мо яны спадзяюцца, што ўлада ўпадзе ім у рукі сама? Улада дастаецца ў выніку рэальнай жорсткай барацьбы за яе, а не за дэманстрацыю адданасці хоць самай дэмакратычнай канстытуцыі ў свеце.

Пакуль што верагоднасць усялякіх рэвалюцыяў у нашым стомленым ад рэвалюцыяў грамадстве дастаткова малая. Разам з тым, як паказвае вопыт краінаў СНД, магчымыя негатыўныя наступствы «рэвалюцыяў» для неакрэплай дзяржаўнасці Беларусі. Таму найбольш прымальным накірункам дзейнасці дэмакратычных сілаў з'яўляюцца барацьба за дэмакратычную канстытуцыю і свабодныя выбары шляхам прымушэння рэжыму да дыялогу і саступак у накірунку дэмакратызацыі краіны.

Механізмам вырашэння канстытуцыйнага крызісу можа стаць прапанаваны сацыял-дэмакратамі Канстытуцыйны Сход. Мэта сходу – выпрацаваць кампрамісны варыянт Канстытуцыі, прыняць выбарчае заканадаўства і прызначыць даты прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў. Безумоўна, такі шлях да дэмакратыі зойме шмат часу і запатрабуе значных намаганняў ад дэмакратычных сілаў, але, як казала мне ў раннім дзяцінстве маці, «калі хочаш выгнаць свінню з гароду, то пакінь ёй дзірку ў плоце – інакш усе грады стопча».

**IV. Заваёва з дапамогай выбараў «дэмакратычных» плацдармаў і іх пашырэнне.**

Такімі плацдармамі маглі б стаць дэмакратычныя фракцыі ў парламенце, мясцовых органах прадстаўнічай улады. Абапіраючыся на гэтыя «плацдармы», дэмакратычныя сілы маглі б пашырыць працу па дэмакратызацыі на ўсе сферы грамадскага жыцця.

Часта чуваць аргументы, што рэжым ніколі не пойдзе на цалкам дэмакратычныя выбары. Мо для «новых» апазіцыянераў з былой наменклатуры і бывалі калі-небудзь дэмакратычныя выбары, а БНФ і сацыял-дэмакратам заўсёды прыходзілася змагацца з фальсіфікацыямі і масавымі кампаніямі паклёпу. Зрэшты, у любой краіне – нават самай дэмакратычнай – паміж палітычнымі сіламі ідзе ўпартая, нават жорсткая барацьба за ўладу.

Галоўная праблема перамогі на выбарах – не столькі ў заканадаўстве, як у наяўнасці аўтарытэтных і моцных дэмакратычных лідэраў, якія карыстаюцца павагай сярод простых людзей у сваіх рэгіёнах, наяўнасць моцных структураў, здольных эфектыўна правесці выбарчую кампанію і надзейна пракантраляваць ход галасавання.

БСДП хацела ўдзельнічаць у веснавых выбарах у мясцовыя Саветы, але, калі з соцень вылучаных прадстаўнікоў партыі ў склад выбарчых камісіяў улада ўключыла толькі адзінкі, то партыя не стала рызыкаваць сваёй рэпутацыяй, прадэманстравала салідарнасць з іншымі дэмакратычнымі сіламі і не вылучала кандыдатаў у дэпутаты. Адначасна партыя дазволіла сябрам БСДП вылучацца самастойна ад працоўных калектываў і шляхам збору подпісаў, бо ўсе сацыяльныя праекты, якія вяліся намі ў рэгіёнах, былі «завязаныя» на дэпутатах мясцовых Саветаў. Асноўныя ж сілы партыі былі задзейнічаныя ў кампаніі 16 траўня. Таму толькі каля 70 сацыял-дэмакратаў вырашылі пераадолець бар'еры і сабралі подпісы.

Практыка паказала, што калі чалавек вылучаецца ад партыі, яму лягчэй стаць зарэгістраваным кандыдатам у дэпутаты. Вылучэнне шляхам збору подпісаў дае ўладам шмат зачэпак для таго, каб «патапіць» прэтэндэнта на дэпутацкі мандат. Менавіта з-за гэтага бар'ер рэгістрацыі пераадолелі толькі чатыры сацыял-дэмакраты. У трох акругах быў наладжаны жорсткі кантроль. Два нашыя таварышы перамаглі, а ў трэцяй акрузе, дзе сацыял-дэмакрат таксама быў наперадзе, выбары не адбыліся. У акрузе чацвёртага не быў наладжаны дзейсны кантроль, і таму ён прайграў у другім туры (дарэчы, поспех спадарожнічаў якраз на тых участках, дзе кантроль удалося наладзіць).

Партыя паспрабавала не дапусціць фальсіфікацыі з лічбамі яўкі выбаршчыкаў на мясцовыя выбары. У буйных гарадах было распаўсюджана паўмільёна лістовак «Мы не пойдем на выборы без выбора». На жаль, толькі ў Наваполацку дэмакратам удалося згуртавацца і наладзіць кантроль за яўкай на выбары, і толькі ў гэтым горадзе выбары не адбыліся.

Удзел нашых таварышаў у мясцовых выбарах дазволіў не галаслоўна, а на канкрэтных лічбах і дакументальна паказаць усяму свету іх недэмакратычны характар.

У выніку гэтых выбараў для мяне зрабілася відавочным: трэба браць удзел у любых выбарах. Форма ўдзелу можа быць рознай: ад вылучэння кандыдатаў ад партыяў, калі выбары прызнаныя АБСЕ, і да арганізацыі зрыву галасавання (гэта таксама эфектыўная форма ўдзелу).

Выбары – гэта магчымасць сустрэцца з нашымі праціўнікамі твар у твар і змагацца з імі за давер людзей. Нельга ўхіляцца ад гэтай барацьбы. Тым, хто з гэтым не згодны, застаецца рэвалюцыйны шлях барацьбы, але ці шмат у нас людзей, здольных да рэвалюцыйнага дзеяння? І чым можа скончыцца гэтая дзейнасць для незалежнасці краіны?

Прапанаваны шлях да дэмакратыі вельмі няпросты. Ён патрабуе значна больш высілкаў і часу, чым іншыя палітычныя рашэнні, аўтары якіх абяцаюць хуткую і неадкладную перамогу. Нельга сказаць, што гэты шлях бездакорны і не мае альтэрнатываў, бо жыццё багацейшае за любыя схемы, але нам проста неабходна без залішніх ілюзіяў разгледзець усе рэальныя шляхі, каб выбраць той, што нарэшце прывядзе нас да дэмакратычнай Беларусі. ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 559 Нумар падпісаны ў друк 15/06/99 (15:00) Наклад — 17.610